# БЮЛЕТЭНЬ

Беларуск. Рэспублік. К-ту Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых С.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон: Старшыні ЦП № 4-08. Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы і дырэктывы Беларускага Рэспубліканск. Камітэту, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 3 (38) | 15-га студзеня 1930 году | № 3 (38)


## ЗЬМЕСТ



# ПЛЯН

## Работы беларускага рэспубліканскага камітэту саюзу сельгаслесрабочых на 1930 г.

(Асноўныя заданьні плянавай работы).

### 6 тысяч батракоў і сельгаслесрабочых ў партыю.

1. Па ўсёй сыстэме саюзных органаў н/ саюзу арганізаваць клясавае выхаваньне батрацкага актыву і сельгаслесрабочых так, каб падрыхтаваць ў шэрагі партыі 4000 батракоў і 2000 сельгаслесрабочых і садзейнічаць КП/б/Б па ўцягненьні батрацтва і сельгаслесрабочых ў партыю.

### 10 Тысяч рабоча-батрацкай моладзі ў комсомол.

2. Практычную работу саюзных органаў на мясцох пабудаваць так, каб аказаць поўнае садзейнічаньне камсамолу ў яго рабоце па ўцягненьні ў шэрагі ЛКСМБ рабоча-батрацкай моладзі праз клясавае выхаваньне апошняй ня менш 10.000 чалавек, з якіх: батракоў 5.000 чал., батрачак 2.000 чал., сельгаслесрабочых 2.000 чал. і работніц 1.000 чал.

### Батракоў і сельгаслесрабочых ў саветы—ня менш 40-50 проц. усяго складу сельсавету.

3. Узмацніць удзел усіх груп сельгаслесрабочых, батрацтва і спэцыялістых у рабоце сельсаветаў. Арганізаваць шырокі ўдзел батрацтва і сельгаслесрабочых у перавыбарчай кампаніі саветаў. У 1930 годзе павінна быць членамі саветаў батракоў і сельгаслесрабочых ня менш як 40-50 проц., усяго складу сельсаветаў.

### 25-30 тысяч батракоў, пастухоў, лесарубаў, сплаўшчыкаў, і рабочых торфараспрацовак у саюз.

4. У працягу году ўцягнуць у шэрагі саюзу ня менш 25-30 тысяч батракоў-пастухоў, лесарубаў, сплаўшчыкаў і рабочых торфараспрацовак, г. зн. усю пралетарскую частку батрацтва і пастушаства, лесарубаў і рабочых торфраспрацовак ахапіць саюзным членствам.

### Уцягнуць усіх сельгаслесрабочых у практычную работу па ажыцяўленьню суцэльнае калектывізацыі БССР.

5. Арганізаваць шырокую ініцятыву сельгаслесрабочых батрацтва, бедняцка-серадняцкага сялянства, спэцыялістых сельскай і лясной гаспадаркі і накіраваць іх творчую работу на ажыцяўленьне суцэльнае калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

**60 тысяч батракоў, батрачак і пастухоў ўцягнуць у калгасы.**

У раёнах і сельсаветах суцэльнай калектывізацыі і наогул у арганізуемыя калгасы ўцягнуць ня менш 60 тысяч батрацтва і пастушаства, для чаго ўсю саюзную работу падпарадкаваць садзейнічаньню і кіраўніцтву калгасным рухам і таму, каб не адзін батрак, батрачка і пастух ў калектывізаванай вёсцы не застаўся па-за калектывам.

У сувязі з сацыялістычнай перабудовай сельскай гаспадаркі, шпаркім пашырэньнем сацыялістычнага сэктару, пераглядзець арганізацыйную структуру саюзнай сеткі, прыстасаваўшы яе да сапраўднага абслугоўваньня члена саюзу і выкананьне задач па перабудове вёскі.

**Усе батрацтва і пастушаства ўцягнуць у шэрагі спажывецкай каапэрацыі.**

7. Пашырыць работу саюзных органаў на мясцох па ўцягненьні батрацтва і пастушаства ў спажывецкую каапэрацыю, для чаго дабіцца льгот для батрацтва пры ўступленьні пайшчыкамі ў каапэрацыю. Каапэраваць у працягу 1930 г. усіх батракоў і пастухоў. У час перавыбараў спажывецкай і сельска-гаспадарчай каапэрацыі арганізаваць актыўны ўдзел ў гэтай рабоце ўсіх груп сельгаслесрабочых і дабіцца, каб у кожным праўленьні было ня менш 2-х сельгаслесрабочых—1 батрак ці батрачка і 1 ад другіх груп сельгаслесрабочых і абавязкова 1 чалавек ў склад рэўкамісіі.

**Уся ўвага сельгаслесрабочых і спэцыялістых павышэньню ўраджайнасьці, вытворчасьці працы і зьніжэньню сабекошту. 100% выкананьне вытворчых плянаў па сельскай і лясной гаспадарцы ў цэнтр усяе работы саюзных органаў і ўсёй шырокай рабочай масы.**

15. Арганізаваць інцыятыву сельгасрабочых так, каб:

а) павялічыць ураджайнасьць у саўгасах на 30%, у калгасах на 25% у беднякка-серадняцкіх гаспадарках на 20% у параўнаньні з сярэднім ураджаем 1930 году;

б) падняць вытворчасьць працы ў саўгасах на 30% на мэліарацыйных і тарфяных работах на 25%

в) зьнізіць сабекоштоўнасьць прадукцыі ў саўгасах на 15%

г) у лясьніцтвах на ўсе 100% выканаць пляны па лесааднаўленьню, на ўсе 100% зьнішчыць самавольныя парубкі.

д) выканаць на ўсе 100% плян дровалесанарыхтовак, вывозкі і сплаву лесаматар'ялаў і дроў.

16. Для поўнага выкананьня вытворчых плянаў па сельскай і лясной гаспадарцы і дровалесанарыхтоўках арганізаваць і ўцягнуць ў сацыялістычнае спаборніцтва рабочыя калектывы ўсіх гаспадарчых адзінак. Па лініі саўгасаў, мэліарацыйных, тарфяных распрацовак і дровалесанарыхтовак арганізаваць ударныя групы, пашыраючы гэтыя групы да ўдарных гаспадарчых адзінак.

17. Навокал пытаньня падрыхтоўкі і правядзеньня пасеўных кампаній арганізаваць увагу сельгаслесрабочых і спэцыялістых і наогул усей грамадзкасьці.

18. Работу вытворчых нарад у саўгасах, лясьніцтвах, мэлторфараспрацоўках, лесанарыхтоўках узмацніць і падпарадкаваць выкананьню вытворчых плянаў, уздыму ўраджайнасьці, пашырэньню пасеўнай плошчы, павялічэньню вытворчасьці працы, зьніжэньню сабекоштоўнасьці і г. д.

**Усе саўгасы перавясьці на бесьперапынны 5 дзённы тыдзень.**

19. Да вясеньняй пасеўнай кампаніі ўсе саўгасы перавесьці на бесьперапынны 5 дзённы тыдзень. У час пасеўнай і ўборачнай кампаніі арганізаваць у саўгасах работу на 2 зьмены.

**6. тысяч батракоў, батрачак і пастухоў у новыя буйныя саўгасы Бельсельтрэсту, Зернотрэсту, Льнотрэсту, Скотавода**

8. Падрыхтаваць і арганізаванным парадкам уліць у арганізуемыя буйныя саўгасы Зернатрэстам, Скотаводам, Белсельтрэстам і Ільнотрэстам ня менш 6.000 рабочых з батрацтва і пастушаства.

**8. тысяч батракоў у сталыя арцелі на лесонарыхтоўкі і сплаў**

9. У працягу 1930 г. арганізаваць сталыя гадовыя арцелі лесарубаў з бат

рацтва, уцягнуўшы ў арцелі ня менш 8.000 батракоў і стала замацаваць іх за асобнымі леспрамгасамі ці лесанарыхтоўчымі раёнамі.

**5 тысяч батракоў і сельгаслесрабочых на кіруючую і кваліфікаваную работу.**

14. У працягу 1930 году вылучыць на адказную кіруючую і кваліфікаваную работу ў савецкія, прафэсыянальныя, каапэрацыйныя гаспадарчыя органы батракоў, батрачак, сельгаслесрабочых і ня менш работніц 5.000 чалавек.

**Перападрыхтаваць і падрыхтаваць 2000 чал. кваліфікаваннай рабочай сілы з батрацтва і сельгаслесрабочых для сельскай і лясной гаспадаркі.**

20. У галіне падрыхтоўкі кадраў кваліфікаваных рабочых і спэцыялістых арганізаваць супольна з гаспадарчымі органамі наступныя каротка тэрміновыя курсы:

1) калёнаважатых трактарных калён;

2) рулявых трактарыстаў;

3) старшых рабочых саўгасаў;

4) саўгаскіх і калгасных скотнікаў і пастухоў;

5) дзесятнікаў лесараспрацовак;

6) майстраў па падсочцы;

7) прапусьціць праз курсы ЦІП сьлесарна-такарны і кавальскі цэхі 200 чалавек батракоў і саўгаскіх рабочых;

8) рахункаводаў для буйных саўгасаў і калгасаў з ліку батракоў, саўгаскай моладзі і калгаснікаў;

9) тэхнікаў па земляўпарадкаваньні;

10) культуртэхнікаў для лясьніцтв з лясьнікоў і батрацтва;

11) кіраўнікоў узбуйняемых саўгасаў;

12) старшынь праўленьняў калгасаў;

13) лясьнічых і другіх.

Прапусьціць праз гэтыя курсы ня менш 2000 чалавек.

21. Да вясеньняй пасеўнай кампаніі правесьці 3-х тыднёвыя вытворчыя курсы рабочых саўгасаў, ахапіўшы гэтымі курсамі рабочых і работніц на ўсе 100%

Такія-ж вытворчыя курсы арганізаваць на мэліарацыйных, тарфяных распрацоўках і лясьніцтвах.

**2000 батракоў, батрачак і сельгаслесрабочых падрыхтаваць ў рабфакі і іншыя навучальныя ўстановы.**

22. Дабіцца пашырэньня курсаў па падрыхтоўцы батрацтва ў рабфакі да 150 чалавек. Арганізаваць курсы па падрыхтоўцы батрацкай і саўгаскай моладзі ў ВНУ.

Падрыхтаваць за культсродкі саюза батрацкай і саўгаскай моладзі ў рабфакі вайсковыя школы, розныя прафтэхшколы (рыбаводныя, лесаэксплётацыйныя,- сельгасвуч і г. д.) ня менш 1500 чалавек.

23. Арганізаваць сталую падрыхтоўку праз курсы прафактыву прафработнікаў для нізовых саюзных органоў, для чаго рэарганізаваць маючыяся рэспубліканскія прафкурсы ў бесьперапынныя сталыя гадовыя прафкурсы, праз якія прапусьціць 260 чалавек.

**На ўсе 100% ахапіць батрацтва і пастушаства працадагаворам.**

10. У 1930 годзе ахапіць усё батрацтва і пастушаства працоўнымі дагаварамі, для чаго працадагаворную кампанію правесьці ўдарна, арганізаваўшы сацспаборніцтва вакол гэтае кампаніі паміж сельрабачкомамі.

11. Дабіцца павялічэньня зарплаты батракоў і батрачак да ўзроўню зарплаты рабочых ў саўгасах. Дабіцца, каб памеры зарплаты батрачкі былі аднолькавыя з зарплатай батрака. Павялічыць зарплату грамадзкіх пастухоў на 25%.

13. Дабіцца, каб зарплата батракам і пастухам выплачвалася наймальнікамі праз касы ашчаднасьці і рэгулярна кожны месяц.

13. Ахапіць сацстрахаваньнем усе 100% батрацтва і пастушаства, для чаго шырока папулярызаваць новы закон аб сацстрахаваньні сярод батракоў і пастухоў.

* * *

**Ва ўсіх мерапрыемствах па вывучэньню і падрыхтоўцы кваліфікаванай рабочай сілы пры пасылцы ў навучальныя ўстановы і на розныя курсы забясьпечыць не менш як 40 проц. жанчын.**

**Давесьці газету „Бел. Батрак" да кожнага члена саюзу. 40-50.000 падпісчыкаў газеты да канца 1930 году.**

24. Арганізаваць унядрэньне газэты „Бел. Батрак" у рабочыя і батрацкія масы так, каб к палове 1930г. мець гадовых падпісчыкаў ня менш 30.000 і к канцу году 50.000 гадовых падпісчыкаў.

**Ні воднага няпісменнага сельгаслесрабочага і батрака ў шэрагах саюзу.**

25. У летні час на сезонных работах (мэліарацыйных работах і торфараспрацоўках) арганізаваць лікпункты, якімі ахапіць усіх няпісьменных сэзоньнікаў.

26. Дабіцца пашырэньня сеткі лікпунктаў к навучальнаму 1930/31 г. да такой ступені, каб усю няпісьменную частку батрацтва і пастушаства да 40 гадовага ўзросту ахапіць лікпунктамі.

**Пабудаваць 15 новых клюбаў ў саўгасах і адрэмантаваць і абсталяваць маючыяся клюбы, чырвоныя куткі і куткі батрака.**

27. Пабудаваць у саўгасах Менакругі 5 новых клюбаў, у Бабруйскай, Гомельскай і Аршанскай акругах па 2 і ў астатніх акругах па 1 клюбу. Адрэмантаваць маючыяся ў лясьніцтвах, саўгасах, тарфяных і мэліарацыйных распрацоўках клюбы, чырвоныя куткі, куткі батрака і хаты-чытальні. Ажывіць работу культустаноў так, каб яны сапраўды былі культвыхаваўчымі асяродкамі для сельгаслесрабочых і батрацтва.

**Радыёфіцыраваць 3000 кватэр рабочых саўгасаў. Ні воднай культустановы саюзу без радыё.**

28. У працягу 1930г. арганізаваць радыё-ўстаноўкі ў кожнай культустанове саюзу (клюбе, чырвоным кутку, кутку батрака, хаце-чытальне). У 50% саўгасаў ва ўсіх кватэрах рабочых устанавіць радыё-прыёмнікі.

У мэтах належнага дагляду і карыстаньня радыё арганізаваць тыднёвыя курсы радыстых ў кожнай акрузе з разьліку на 40 чалавек. абавязаць кожнага радыётэхніка, устанаўліваючага радыё, праінструктаваць рабочага, адказваючага за радыёўстаноўку.

**Ні воднай саюзнай культустановы без вінтоўкі, лыж, шахмат, футболу.**

29. Пры кожнай саюзнай культустанове за сродкі культфонду мець дробнакалібэрную вінтоўку, 5-10 пар лыж некольکі пар шахматаў, футбол. Арганізаваць гурткі Асоавіяхіма і спорта. Набіць ня менш 100 вэлёсыпэдаў для спортгуртkoў. Правесьці спаборніцтва па стральбе і футболу саюзных гурткоў і команд.

30. Ажыцьцявіць плянавае заданьне саюзу на 1929г. і арганізаваць культабслугоўваньне сплаўшчыкаў на рэках—Днепр, Прыпяць, Сож, Дзьвіна і Бярэзіна на культлодках.

**20 сталых гадовых і 50 сэзонных дзіцячых ясьляў і пляцовак ў саўгасах.**

31. Разам з органамі НК Аховы Здароўя арганізаваць у саўгасах 12 сталых гадовых і сзонных дзіц. ясьляў і пляцовак ў саўгасах.

**500 новых бібліотэк.**

32. Тэрмінова ўкамплектаваць 500 новых бібліотэк;
200 бібліотэк ў саўгасах,
100 у сельрабачкомах,
100 у лясьніцтвах і
100 у мясцкомах.

Папаўненьне саюзных бібліотэк праводзіць выключна праз кніжны калектар РВА ЦСПСБ.

**2500 гурткоў па самаадукацыі**

33. Арганізаваць 500 гурткоў па завочным праходжаньні курсаў па сельскай гаспадарцы. 500 гурткоў—завочных па падрыхтоўцы да паступленьня ў рабфакі і прафшколы. 500 гурткоў—завочных для праходжаньня ў падрыхтоўчым аддзяленьні рабфаку. 500 гурткоў па праходжаньні рабфаку на даму і 500 гурткоў для малапісменных.

# Календарны плян

пытаньняў, разглядаемых на Пленумах і Прэзыдыуме Бел. Рэсп. К-ту на 1930 год.

**Паседжаньня Прызыдыуму адбываюцца тры разы ў месяц 9, 19, і 29 чысла.**

| №№ п. ч. | Калі і якія пытаньні разглядаюцца на Прэзыдыуме БелРэска саюзу | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто дакладчык | Аб'екты абсьледваньняў | Хто выклікаецца |
|---|---|---|---|---|---|
| | **а) Па арганізацыйнай рабоце.** | | | | |
| | **29-га студзеня 1930 году.** | | | | |
| 1 | Вынікі выкананьня плянавых заданьняў па вылучэньню сельгаслесрабочых і аб рабоце з вылучэнцамі. | Аргразьмярк | т. Аскерка | | |
| 2 | Вынікі падбору работнікаў для ўзмацненьня БРК і Акрыгкомаў і практычныя мерапрыемствы па падбору і падрыхтоўцы работнікаў рабачкомаў. | " | " | | |
| 3 | Аб скарыстаньні на рабоце скончыўшых прафкурсы пры БРК, ЦК саюзу і др. | " | т. Заяц | | |
| 4 | Зацьверджаньне бюджэту саюзу на 1930 год і каштарысу па культфонду. | Фінчастка і Бюджэтная Камісія | т. Аскерка | | |
| 5 | Аб падрыхтоўцы да Ўсебеларускага зьезду саюзу (выдзяленьне аргкамісіі і плян падрыхтоўкі). | Аргразьмярк | " | | |
| 6 | Аб рабоце саюзных арганізацый у раёнах і акругах суцэльнае калектывізацыі, мерапрыемствы па калектывізацыі батрацтва і садзейнічаньне калектывізацыі. | " | " і Радкевіч | Магілёўская акруга | Старшыня Акругкому і 2 рабачкомы |
| 7 | Аб арганізацыйнай структуры ЦБ, Акрбюро і ЦБ сэкцый спэцыялістых, сыстэмы кіраваньня работаю сэкцый з боку саюзных органаў і плян работы сэкцый. | " ЦБ сэкцыі | т. Бушко | | |
| | **29-га лютага.** | | | | |
| 1 | Вынікі праверкі выкананьня дырэктыў 3-га пленуму БРК аб росьце саюзу. | Аргразьмярк | т. Аскерка | Менская акруга і Гомельская | Старшыня Гомельскага Акраддзяленьня |
| 2 | Даклад Аргкамісіі аб ходзе падрыхтоўкі да 10-га зьезду саюзу. | Акркамісія | Старшыня Аркамісіі | | |
| 3 | Аб касах узаемадапамогі і мерапрыемствах па іх узмацненьні. | Аргразьмярк | т. Шчамелева | | |
| 4 | Аб уцягненьні ў практычную саюзную работу ўсіх выбарных членаў БРК, ЦСПСБ, ЦК саюзу, УсеЦСПС, АПВ і АК саюзу, працуючых у прадпрыемствах сельскай і лясной гаспадаркі на вытворчасьці. | " | т. Вайтэнкаў | | |
| 5 | Вынікі праверкі дырэктыў БРК і работы саюзу па падрыхтоўцы батракоў і сельгаслесрабочых да ўступленьня ў шэрагі КП(б)Б і ЛКСМ. | " | " | 2 акругі | 2 старшыні Акругкома і 2 старшыні рабачкомаў |

| №№ п. ч. | Калі і якія пытаньні разглядаюцца на Прэзыдыуме БелРэска саюзу | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто дакладчык | Аб'екты абсьледваньняў | Хто выклікаецца |
|---|---|---|---|---|---|
| 6 | Аб прыцягненьні да практычнай работы сельгаслесрабочых членаў выбарных савецкіх і каапэрацыйных органаў у работу гэтых органаў, а таксама ў работу саюзу. | Агразьмярк | т. Заяц | | |
| 7 | Вынікі выкананьня соцдагавору з Галоўкасай Ашчаднасьці па ўцягненьню сялянскіх сродкаў у касы ашчаднасьці. | Аргразьмярк Галоўкас. Ашчаднас. | т. Заяц, Падольскі | 4 акругі | |
| 8 | Вынікі ўдзелу сельгаслесрабочых у перавыбарах КСУ і мерапрыемствы па ўдзелу ў рабоце КСУ. | Аргразьмярк ЦК КСУ | т. Аскерка, Жарен | | |
| | **29-га сакавіка.** | | | | |
| 1 | Мерапрыемствы па арганізацыі і замацаваньні рабачкомаў на сэзонна-масавых работах. | Аргразьмярк | т. Заяц | Осінторп. Добруш. Бел. Балота і др. | 4 старш. рабачкомаў |
| 2 | Аб сетцы нізовых саюзных органаў і мерапрыемствы па яе замацаваньні і палепшаньні якаснага складу нізовага актыву. | „ | т. Аскерка | | |
| 3 | Практыка работы саюзнага інструктарскага апарату і мерапрыемствы па яго ўзмацненьню. | „ | „ | | |
| 4 | Аб формах і метадах масавых праверак з удзелам рабочых з вытворчасьці, работы гаспадарчых, грамадзкіх, савецкіх. каапэрацыйных, судовых і саюзных органаў па абслугоўваньню сельгаслесрабочых. | „ | т. Вайтэнкаў | | |
| 5 | Аб масавай праверцы ўдзелу саюзу ў калектывізацыі вёскі аграмаджаньні сродкаў вытворчасьці ў калгасах і ўдзелу ў пасеўнай кампаніі. | „ | т. Аскерка | Усе акругі | |
| 6 | Аб масавай праверцы работы саюзу Чыгуначнікаў, Працасьветы і Саўгандльслужачых па дапамозе саюзу СГЛР. | Аргразьмярк і ЦП адпаведн. саюзаў | т, Вайтенкаў | Па ўзгодненьню саюзамі | |
| 7 | Формы і мегады дапамогі н-саюзу ў рабоце з боку індустрыяльных саюзаў. | Аргразмярк | т. Аскерка | | |
| 8 | Аб арганізацыі работы па растлумачэньню пастаноў Х-га зьезду н-саюзу і Усебеларускага зьезду прафсаюзаў. | „ | т. Вайтэнкаў | | |
| | **29-га красавіка.** | | | | |
| 1 | Арганізацыя масавай праверкі работы шэфтаварыств на весцы сярод сельгаслесрабочых і батрацтва. | „ | т. Заяц | Гомель Мінск Віцебск | |
| 2 | Арганізацыя масавай праверкі ўдзелу саюзу ў рабоце дэлегацкіх сходаў жанчын на весцы. | „ | т. Шчамелева | | |
| 3 | Аб арганізацыі масавай праверкі работы і выкананьне дырэктыў БРК па ўсіх галінах па Віцебскай і Магілёўскай акругах. | „ | т. Аскерка | Віцебск Магілёў | |

| №№ п. ч. | Калі і якія пытаньні разглядаюцца на Прэзыдыуме БелРэска саюзу | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто дакладчык | Аб'екты абсьледваньняў | Хто выкл'каецца |
|---|---|---|---|---|---|
| 4 | Практыка работы рабачкомаў пры непрарыўным вытворчым тыдні і мерапрыемствы па палепшаньню яе. | Аргразьмярк | „ | | |
| 5 | Календарны расклад адпачынкаў работнікаў БРК, Акругкомаў і платных работнікаў у рабачкомах. | „ | „ | | |
| | **29-га мая.** | | | | |
| 1 | Вынікі практычнай работы курсантаў прафкурсаў старшынь с.-рабачкомаў. | Заг. курсаў | т. т. Аскерко, Скараход | | |
| 2 | Вынікі масавай праверкі работы Віцебскай і Магілёўскай арганізацый саюзу. | Аргразьмярк і Акругомы | т. т. Каўчас, Радкевіч | | |
| 3 | Праверка выкананьня пастаноў БРК аб становішчы саўгасу 10-ці годзьдзя БССР і работы рабачкомаў у калгасах. | Аргразьмярк | Дырэктар саўгасу, Старшыня рабачкому | 1 совхоз і ўсе рыбгасп. | |
| 4 | Масавая праверка фінработы рабачкомаў і акругкомаў, скарыстоўваньне сродкаў вясковага фонду і аб матар'яльным забясьпечаньні старшынь с.-рабачкомаў. | „ | т. Аскерка | | |
| 5 | Арганізацыя сkліканьня нарады сельгаслесрабочых, вылучаных на работу ў савецкія, гаспадарчыя, саюзныя і каапэрацыйныя ўстановы. | „ | „ | | |
| 6 | Мерапрыёмствы па ўдзелу саюзу ў сельгаспадатковай кампаніі. | „ | т. Заяц | | |
| 7 | Вынікі падпіскі на 1-ю пазыку калектывізацыі. | Арг. аддз. | т. Аскерка | | |
| | **29-га чэрвеня.** | | | | |
| 1 | Аб ходзе прафработы на сплаве (Дзьвіна, Прыпяць, Днепр, Сож). | Аргразьмярк | т. Аскерка | Полоцк. Мазыр. Гомель | |
| 2 | Праверка прафработы на сэзонна-масавых работах. | „ | Даклады старшынь рабачкомаў | | |
| 3 | Выкананьне бюджэту саюзу і каштарысаў па культфонду за 1-е паўгодзьдзе 1930 г. і вынікі праверкі фінработы рабачкомаў. | Фінчастка | т. Аскерка | | |
| 4 | Праверка работы па абслугоўваньню спэцыялістых на вытворчасьці. | ЦБ сэкцый | т. Бушко | | |
| 5 | Вынікі практычнай работы курсантаў, старшынь рабачкомаў саўгасаў. | Аргразьмярк, заг курсаў | т. т. Аскерка. Скараход | | |
| | **29-га ліпеня.** | | | | |
| 1 | Мерапрыемствы па арганізацыі масавага ўдзелу сельгаслесрабочых у хлебанарыхтоўках і льнонарыхтоўках. | Аргразьмярк | т. Аскерка | | |

| № п. ч. | Калі і якія пытаньні разглядваюцца на Прэзыдыуме БелРэсКа саюзу. | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто дакладчык | Аб'екты абсьледваньняў | Хто выклікаецца |
|---|---|---|---|---|---|
| 2 | Практычныя мерапрыемствы па арганізацыйным абслугоўваньню жанчын і моладзі. | Агразмярк | т. т. Шчамелева, Заяц | | |
| 3 | Практыка нэпасрэднага кіраўніцтва работаю рабачкомаў з боку БРК і Акругкомаў саюзу. | „ | т. Вайтэнкаў | | |
| 4 | Праверка выкананьня пастаноў БРК ад 8-Х—29 г. аб узмацненьні прафработы ў саўгасах. | „ | т. Аскерка | 20 с.-гасаў | |
| | **29-га жніўня.** | | | | |
| 1 | Аб арганізацыі масавай праверкі работы БРК акругкомаў і рабачкомаў па разгляду і рэагаваньню на розныя заявы і запытаньні членаў саюзу. | „ | т. Вайтэнкаў | Усе акругкомы | |
| 2 | Мерапрыемствы па арганізацыі работы па абслугоўваньню беспрацоўных. | „ | т. Заяц | | |
| 3 | Вынікі практычнай работы курсантаў старшынь рабачкомаў л-в. | „ | т. Шчамелева | | |
| 4 | Аб удзелу саюзу ў рабоце груп беднаты. | „ | т. Аскерка | | |
| | **29-га верасня.** | | | | |
| 1 | Аб масавай праверцы форм і мэтадаў разгортваньня крытыкі і самакрытыкі і ўплыву самакрытыкі на палепшаньне саюзнай і гаспадарчай работы. | „ | т. Вайтэнкаў | | |
| 2 | Практычныя мерапрыемствы па арганізацыі работы прафкомаў у с.-г. навучальных установах. | „ | т. Заяц | Усе с.-г. навуч. установы | |
| 3 | Вынікі летней работы рабачкомаў на сэзоннамасавых работах і аб скарыстаньні платных работнікаў гэтых рабачкомах у зімовы пэр. | „ | т. Аскерка | | |
| 4 | Мерапрыемствы па арганізацыі рабачкомаў на лесарасярацоўках і аб падборы работнікаў для рабачкомаў лесараспрацовак. | „ | т. Аскерка | | |
| 5 | Практычныя мерапрыемствы па арганізацыі сельгаслесрабочых для ўдзелу ў справаздачна-перавыбарачнай кампаніі с.-с. | „ | „ | | |
| | **29-га кастрычніка.** | | | | |
| 1 | Вынікі росту саюзу. | „ | т. Аскерка | | |
| 2 | Вынікі работы па падрыхтоўцы батракоў у партыю і ЛКСМ. | „ | т. Вайтэнкаў | | |
| 3 | Прынцыпы пабудаваньня саюзнага бюджэту на 1931 год і дырэктывы па складаньні каштарысу. | „ | т. Аскерка | | |
| 4 | Плян акруговых канфэрэнцый саюзу і сэкцый спэцыялістых. | „ | т. Аскерка<br>т. Заяц | | |
| 5 | Арганізацыя масавай праверкі работы рабачкомаў па ўцягненьню сялянскіх сродкаў у касы ашчаднасьці. | ЦБ сэкцый і Аргразьмярк, Галоўкаса | | | |

| №№ п. ч. | Калі і якія пытаньні разглядаюцца на Прэзыдыуме БелРэсКа саюзу. | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто дакладчык | Аб'екты абсьледваньняў | Хто выклікаецца |
|---|---|---|---|---|---|
| | **29-га лістапада.** | | | | |
| 1 | Арганізацыя масавай праверкі выкананьня плянаў работы БРК, акругкомаў і рабачкомаў за 1930 год. | Агразьмярк | т. Вайтэнкаў | | |
| 2 | Мерапрыемствы па падбору і падрыхтоўцы кандыдатур сельгаслесрабочых у склад с.-с., РВК, АВК, ЦВК. | Агразьмярк | т. Аскерка | | |
| 3 | Праверка выкананьня саццагавору з саюзам чыгуначнікаў на лепшае выкананьне пастаноў III пленуму УсеЦСПС (лістапад 1929 г.). | „ | т. т. Вайтэнкаў, Ісаеў | | |
| | **29-га сьнежня.** | | | | |
| 1 | Вынікі праверкі выкананьня плянаў БРК, акругкомаў і рабачкомаў і зацьверджаньне пляну работ БРК на 1930 г. | „ | т. Вайтэнкаў | | |
| 2 | Зацьверджаньне саюзнага бюджэту і каштарыса культфонду на 1931 г. | „ | Аскерка | | |
| 3 | Вынікі падрыхтоўкі прафкадраў і далейшыя мерапрыемствы ў гэтай галіне. | „ | „ | | |
| | **б) Па вытворча-эканамічнай рабоце.** | | | | |
| | **9-га студзеня 1930 году.** | | | | |
| 1 | Аб ходзе падрыхтоўкі да вясеньняй пасеўнай кампаніі—выкананьне рашэньняў СНКБ. | А Т Э | НКЗВ, БСТ, Белкалгассаюз, Белпаляводсаюз, Белсельгасснаб, Белсадсаюз, Белжывелаводсаюз, Льнотрэст, Зернатрэст, Скотавод, Белбанк | | Камслужы, прадстаўнік ЦК ЛКСМ кіраўнікі прыгародных саўгасаў і рабачкомаў |
| 2 | Вынікі выкананьня дырэктыў БРК па ажыцьцяўленьні дзейнасьці работы вытворчых нарад і камісій. | А Т Э | т. Калядзенка | Саўгас Леніна і Смалявіцкае Л-ва | Старшыні вытворчых камісій і нарад, рабачкомы прыгародных саўгасаў |
| 3 | Аб удзеле саюзу ў арганізацыі работы вытворчых нарад пры с.-с. | А Т Э | т. Вяжэвіч | 2 с.-с. Самахвалавіцк. р-ну | Старшыні с.-с. і члены с.-с. прыгародных саўг. |
| 4 | Вытворчы плян БСТ на 1930 г. | БСТ і Аграсэкцыя | Хрысанфаў ці Аўчыньнікаў | | |
| 5 | Вытворчы плян мэліарацыйнай групы НКЗБ на 1930 г. | АТЭ і земсэкцыя | т. т. Шычко і Лейвікаў | | |
| 6 | Даклад Дырэкцыі Высгаўкому с.-г. Выстаўкі. | А Т Э | т. т. Дубіна і Бушко | | |
| | **9-га лютага.** | | | | |
| 1 | Асноўныя моманты калдагавору на саўгасы БСТ на 1930 г. | А Т Э | т. т. Вяжэвіч і Аўчыньнікаў | По матар'ялах абгаварэньня на мясцох | Рабачкомы прыгародных саўгасаў |

| № № п. ч. | Калі і якія пытаньні разглядаюцца на Прэзыдыуме БелРэсКа саюзу. | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто дакладчык | Аб'екты абсьледваньняў | Хто выклікаецца |
|---|---|---|---|---|---|
| 2 | Арганізацыя буйных саўгасаў у БССР. | АТЭ, НКЗБ, БСТ | т. Масюкоў, Аўчыньнікаў | | |
| 3 | Вынікі агрыкультурнай работы саўгасаў сярод калгасаў і бедняцка-серадняцкіх гаспадарак. | АТЭ і Аграсэкцыя | т. т. Аўчыньнікаў і Старшыня Аграсэкцыі | У Слуцкім р-не 3 саўгасы, саўгасы Самахвал. і Логойскага р-наў Менакр. | |
| 4 | Укамплектаваньне рабочай сілай узбуйняемых і ўноў арганізуемых саўгасаў. | А Т Э | т. т. Аўчыньнікаў і Эльперын | | |
| 5 | Вытворчы плян торфараспрацовак Белторфтрэсту і Эльвода на 1930 г. | АТЭ і гас. орган. | Старшыня Белторфтрэсту і Дырэктар эльводу ад НКЗ і с.-г. Снабу | | |
| 6 | Плян будаўніцтва машынна-трактарных станцый і трактарных калён і забесьпячэньне калгасаў і саўгасаў с.-г. машынамі. | А Т Э | | | |
| 7 | Даклад ЦСК аб праведзенай рабоце па вучоту наёмнай рабочай сілы ў с.-гасп. і аб зарплаце. | А Т Э | Ад Сэкцыі Працы ЦСК | | |
| | **9-га сакавіка.** | | | | |
| 1 | Вынікі падрыхтоўчай работы да працдагаворнай кампаніі. | А Т Э | т. Калядзенка | У Аршанскай акр. 6 ячэек, у Менскай 20 ячэек | Райінструктары Менакугі |
| 2 | Арганізацыя грамадзкага харчаваньня ў саўгасах. | „ | т. т. Эльперын і Аўчыньнікаў | | |
| 3 | Вынікі прымяненьня зьдзельшчыны ў саўгасах. | „ | Аўчыньнікаў і Вяжэвіч | | |
| 4 | Пытаньне лесасплаўной кампаніі на 1930 год. | АТЭ і Начплаву | Нач. Сплаву і т. Эльперын | | |
| 5 | Аб суцэльнай калектывізацыі ў Магілёўскай акрузе. | АТЭ, Акркалгассаюз, АКРЗА і Акругкомы саюзу | Кіраўнікі акруговых устаноў | | |
| 6 | Становішча падрыхтоўчай работы да вясеньняй пасеў-кампаніі. | АТЭ, НКЗБ, БСТ Белкалгассаюз, Белсельгаснаб | Кіраўнікі устаноў | | |
| 7 | Вынікі выкананьня калдагавораў на саўгасы і сэзоньнікаў (сплаў, торфараспрацоўкі). | А Т Э | т. Вяжэвіч | Па матар'ялах з месц | |
| | **9-га красавіка.** | | | | |
| 1 | Праверка выкананьня дырэктыў Прэзыдыуму БРК па пытаньню аб выніках сацспаборніцтва. | А Т Э | т. Вяжэвіч | З выездам ва ўсе акругі | |
| 2 | Канчатковы плян па земляўпарадкаваньні і забясьпечанасьці каморніцкай сілай. | Земляўпарад. група НКЗБ, А Т Э. | т. В. Вырын | Без выезду | |
| 3 | Праверка выкананьня пастаноў БРК саюзу па разгортваньні падсочных промыслаў. | АТЭ падсочны промысел НКЗБ | т.т. Эльперын. Лазарэвіч | „ | |
| 4 | Папярэднія вынікі пераходу прадпрыемств сельскай і лясной гаспадаркі на бесперапынны вытворчы тыдзень. | АТЭ | Дакладчыкі ад гаспарчых устаноў | | |

| №№ п. ч. | Калі і якія пытаньні разглядаюцца на Прэзыдыуме БелРэсКа саюзу | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто дакладчык | Аб'екты абсьледваньняў | Хто выклікаецца |
|---|---|---|---|---|---|
| | **9-га мая.** | | | | |
| 1 | Вынікі работы вытворчых нарад л-ва. | А Т Э | т. Эльперын | Л-ва Чэрвенск./ р. | |
| 2 | Аб самавольных пасечках. | Лясная група НКЗБ, Лесэкцыя | т. т. Пятрушын. Бушко | Без выезду | |
| 3 | Выкананьне лесанарыхтоўчых плянаў па лесанарыхтоўк. | Лесбел, А Т Э | Лесбел, 3 раён МББ чуг. НКЗБ | Без выезду | |
| 4 | Аб ходзе лесасплаўной кампаніі. | АТЭ і Начсплаву | Нач. спл. і т. Эльперын | Мазыр. і Віцебск. акр. (Зах. Дзьвіна і Прыпецьці. | |
| 5 | Становішча адзіначальля у прадпрыемствах сельскай і лясной гаспадаркі і мерапрыемствы па яго ўзмацненьні. | АТЭ | т. Вяжэвіч | | |
| 6 | Мерапрыемствы па разгортваньні і садзейнічаньні рабочаму вынаходству. | АТЭ | т. Эльперын | | |
| | **9-га чэрвеня.** | | | | |
| 1 | Вынікі вясеньняй пасеўнай кампаніі і падрыхтоўка да асеньняй пасеўкампаніі. | АТЭ і Аграсэкцыя | НКЗБ і ўсе астатнія гас. органы і т. Вяжэвіч | Па матар. Акркам, саюзу і гас. орг. | |
| 2 | Вынікі працдагаворнай кампаніі. | А Т Э | т. Вяжэвіч | Па 1 р. ў кожн. акр. | |
| 3 | Папярэднія вынікі калектывізацыі батрацтва. | „ | т. Калядзенка | „ | |
| 4 | Даклад Сьмілавіцката Райза аб ходзе калектывізацыі. | АТЭ, Аграсэкцыя | Райза і старшыня Аграсэкцыі | Выезд у раён | |
| 5 | Аб ходзе земляўпарадкаваньня. | ЗемГрупа НКЗ і і Аграсэкцыя | В. Вірын і старшыня ЦБ сэкцый | Па 1 раёну ва ўсіх акругах | |
| | **9-га ліпеня.** | | | | |
| 1 | Удзел саюзу ў складаньні бюджэту. | А Т Э і сэкцыі | т. Вяжэвіч і ст. ЦБ сэкц. | Без выезду | |
| 2 | Аб рабоце вытворчых нарад на сэзонных работах. | А Т Э | т. Эльперын | Цнянскія торфараспрац. | Рабачком Цнянскік торфараспрацовак. |
| 3 | Аб рабоце дзіц. ясьляў у саўгасах. | А Т Э | т. Шчамелёва | Па матар'ялах з месц | |
| 4 | Аб курортна-санаторным лячэньні. | А Т Э | т. Вяжэвіч | | |
| | **9-га жніўня.** | | | | |
| 1 | Праверка працдагавораў і разьліковая кампанія. | А Т Э | т. Вяжэвіч | Па матар. з месц | |
| 2 | Мерапрыемствы па барацьбе з беспрацоўем. | А Т Э | т. Эльперын | „ | |
| 3 | Вытворчы плян лесозагатовак на 1931 год. | А Т Э і Лесбел | Лесбел | Без выезду | |
| 4 | Аб забесьпячэньні сельгаслесрабочых прадуктамі і прамтаварамі. | НКГ, Белкаапсаюз А Т Э | НКГ, Белкаапсаюз, АТЭ | | |
| | **9-га верасьня.** | | | | |
| 1 | Вынікі выкананьня калдагавораў на лесарубаў і прапановы да новага калдагавору. | А Т Э | т. Эльперын | З выездам ва ўсе акругі | |
| 2 | Мерапрыемствы па масавай праверцы выкананьня гаспадарча-палітычных дагавораў. | А Т Э | т. Вяжэвіч | Без выезду | |
| 3 | Вынікі ўдзелу саюзу ў калектывізацыі і вытворчае каапэраваньне батрацтва. | АТЭ, Белкалгассаюз і Белкустпрамсаюз | АТЭ, Белкалгассаюз і Белкустпрамсаюз | Выезд у 3 акругі | |

| №№ п. ч. | Калі і якія пытаньні разглядаюцца на Прэзыдыуме БелРэсКа саюзу. | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто дакладчык | Аб'екты абсьледваньняў | Хто выклікаецца |
|---|---|---|---|---|---|
| | **9-га кастрычніка.** | | | | |
| 1 | Вынікі выкананьня калдагавораў і дырэктывы аб перазаключэньні. | А Т Э | т. Вяжэвіч | Па матар'ялах з месц | |
| 2 | Становішча жывёлагадоўлі ў саўгасах і калгасах. | АТЭ. БСТ, Калгассаюз. Жывеловодсаюз і Аграсэкцыя | Гаспадарчыя органы і Аграсэкцыя | Без выезду | |
| 3 | Папярэднія вынікі выкананьня пляну па калектывізацыі і землеўпарадкаваньні. | Земгрупа НКЗБ, Калгассаюзу, АТЭ і Аграсэкцыя | Земгрупа НКЗ, Калгассаюз, АТЭ і Аграсэкцыя | Без выезду | |
| | **9-га лістапада.** | | | | |
| 1 | Вынікі работы часовых кантрольных камісій. | А Т Э | г. Вяжэвіч | Выезд у 10 саўгас. | |
| 2 | Вынікі работы Эканомкамісій і нарад у установах. | А Т Э | т. Горагляд | Усе гарадзкія мясцкомы саюзу | |
| 3 | Вынікі асеньняй пасеўнай кампаніі і мерапрыемствы да вясеньняй пасеўкампаніі 1931 г. | " | БРТ, Калгассаюз і НКЗБ | Без выезду | |
| 4 | Аб разортваньні лесараспрацовак і забесьпячэньні рабсілай. | Лесбел і А Т Э | Лесбел і т. Эльперын | Барысаўскі, Чэрвеньскі і Вузьдзенскі в. Лесбелу | |
| | **9-га сьнежня.** | | | | |
| 1 | Канчатковыя вынікі сацспаборніцтва па сельскай і лясной гаспадарцы. | АТЭ | т. Вяжэвіч | Па матар. масавай праверкі на мясц. | |
| 2 | Выкананьне вытворчага пляну БСТ. | Б С Т і А Т Э | Дырэктар Трэсту | Без выезду | |
| 3 | Выкананьне арганізацыйна-вытворчага пляну Зернотрэсту. | Зернатрэст і Аграсэкцыя | " | | |
| 4 | Выкананьне арганізацыйна-вытворчага пляну Льнотрэсту. | Льнотрэст і Аграсэкцыя | " | | |
| 5 | Выкананьне арганізацыйна-вытворчага пляну „Скотавода". | Гаспадарчы орган і Аграсэкцыя | " | | |
| | **в) Па культурнай рабоце.** | | | | |
| | **19-га студзеня. (Праводзіцца ў Горках).** | | | | |
| 1 | Даклад Наркам. Земляробства і Наркамасьветы аб падрыхтоўцы кадраў для сельскай і лясной гаспадаркі БССР. | НКЗ, НКА, Культаддзел, ЦБ Спецыялістых | т. т. Масюкоў, Лысоў | | |
| 2 | Аб контрактацыі студэнтаў гаспадарчымі установамі | Нарада ЦБ спецыялістых, К-А, НК Працы | т. Бушко | Гаспадарчыя установы. | |
| 3 | Даклад Праўленьня с.-г. Акадэміі. | Праўленьне с-г Академіі | т. Пінчук | Усе факультэты с.-г. | |

| №№ п. ч. | Калі і якія пытаньні разглядаюцца на Прэзыдыуме БелРэсКа саюзу | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто дакладчык | Аб'екты абсьледваньняў | Хто выклікаецца |
|---|---|---|---|---|---|
| 4 | Даклад аб працы Прафкому с.-г. Акадэміі і Прафкому Горацкага рабфаку. | Прафкомы, К-А | т. Алексейчык | Бюро прафсэкц. і прафк. с.-г. Акад. | Прадстаўнікі бюро прафсэкцыі СГЛР, Менпалітэхнікуму, прафкому Магілёўскага, Каморніцкага Тэхнікуму, студкому Дукорскага рабфаку і прафкомаў Каніцкага, Магілёўскага Полацкага, ст.—Барысаўскага і М. Горскага тэхнікумаў. |
| 5 | Даклады аб працы прафкомаў: а) Каморніцкага тэхнікуму; б) Дукорскага рабфаку; в) Полацкага лестэхнікуму. | Адпаведныя прафкомы, К-А | Прадстаўнікі ад прафкомаў | Пералічаныя прафкомы | |
| 6 | Вынікі праверкі ходу па ліквідацыі няпісьменнасьці па Менскай акрузе. | У М А, К-А | т. Башмачнікаў | Усе раёны акругі | Прадстаўнік АКРАНА |
| | **19-га лютага.** | | | | |
| 1 | Аб укамплектаваньні 400 бібліотэк для саўгасаў, лясьніцтваў і с.-рабачкомаў і далейшыя задачы бібліотэчнай справы. | К-А, Р В А | Культаддзл | | Прадстаўнік РВА |
| 2 | Аб арганізацыі курсаў клюбных працаўнікоў: работнікаў клюбаў, радыё-мэханікаў і фізкультурнікаў. | К-А | Культаддзел | | Прадстаўнік НКАсьветы, Радыё—Цэнтру, ВСФК |
| 3 | Аб арганізацыі Ўсебеларускай выстаўкі насьценных газэт. | К-А | Культаддзел | | |
| 4 | Аб арганізацыі пры ўсіх саўгасах, 100 лясьніцтвах і 100 с.-рабачкомах груп „Рабфак на даму", „Сельска-гаспадарчыя курсы", і курсаў па падрыхтоўцы на рабфакі і ў прафшколы. | Наркамасьветы К-А | Культаддзёл | | Наркамасьветы |
| 5 | Аб ходзе працы па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці сярод сельгаслесрабочых і батрацтва. | У М А, Усе АК саюзу, К-А | Культаддзел | | НКА, АКРАНА, ЦК ЛКСМ, ЦВК, саюзы—Працасьветы; Чыгуначнікаў, Мэдсанпрацы |
| 6 | Вынікі правядзеньня Ўсебеларускай і акруговых канфэрэнцый фізкультурнікаў. | Усе АКсаюзу | Культаддзел | Акруговыя і Ўсебеларусяая канфэрэнц. | ВСФК, ЦСПСБ |
| 7 | Практыка правядзеньня раённых курсаў па падрыхтоўцы батрацтва ў партыю і ўдзел саюзу. Далейшыя мерапрыемствы арганізацыі курсаў па падрыхтоўцы ў партыю і камсамол. | АКА саюзу, УМА | т. Горагляд | Праведзеныя курсы | |
| 8 | Мерапрыемствы па вядзеньню выхаваўчай інтэрнацыянальнай работы сярод сельгаслесрабочых і батрацтва. | К-А | К-А | | |

| №№ п. п. | Калі і якія пытаньні разглядаюцца на Прэзыдыуме БелРэсКа саюзу | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто дакладчык | Аб'екты абсьледваньняў | Хто выклікаецца |
|---|---|---|---|---|---|
| | **19-га сакавіка.** | | | | |
| 1 | Практычныя мерапрыемствы па дапамозе рэдкалегіям насьценных гатэт у іх рабоце. | АКА, К-А | К-А | Насьценгазэты, выстаўка | |
| 2 | Аб правядзеньні дня масавай сувязі чытачоў з бібліотэкамі, газэтай „Бел. Батрак", „Батрак" і насьценгазэтамі. | К-А | К-А | | |
| 3 | Формы масавай культпрацы сярод батракоў і сельгаслесрабочых на вясеньне-летні пэрыяд. | АКА. НКАсьветы, К-А | К-А | | Наркамасьветы |
| 4 | Мерапрыемствы па масавай культпрацы сярод сэзоньнікаў і сплаўшчыкаў. | АКА, К-А | К.А | | |
| 5 | Становішча вучобы батрацтва і пастушаства ў школах сацвыху і матар'яльная дапамогу яму. | НКАсьветы, К-А, А К А | Наркамасьветы | | |
| | **19-га красавіка.** | | | | |
| 1 | Вынікі ўплыву работы бібліотек, газэты „Бел Батрак" і насьценгазет па падняцьцю і лепшую арганізацыю вытворчасьці, клясавай сьвядомасьці і падвышэньне культурнага ўзроўню рабочых. | А К А, К-А | К-А | | |
| 2 | Аб правядзеньні „Дню Леса". | А Т Э | К-А | | |
| 3 | Практыка работы курсаў па падрыхтоўцы кадраў прафактыву па прынцыпу бесьперапыннай работы. | К-А | Заг. курсамі | Курсы | |
| 4 | Арганізацыя лікбезу на летні пэрыяд сярод сэзоньнікаў, батракоў і сплаўшчыкаў. | НКАсьветы, АКА, К-А | Наркамасьветы | | Наркамасьветы, ЦК ЛКСМ |
| 5 | Практычныя мерапрыемствы па правядзеньні антырэлігійнай работы. | Т-ва „Безбожнік К-А | Т-ва „Безбожнік | | Т-ва „Безбожнік" НКАсьветы |
| 6 | Аб арганізацыі культперасовак на летні пэрыяд (аўтаперасоўкі, моталодкі і г. д.) | АКА Саюзу, К-А | К-А | | НКА |
| 7 | Аб выданьні папулярных брашур для батрацтва. | Р В А, К-А | К А | | РВА |
| 8 | Практычныя мерапрыемствы, па барацьбе з адмоўнымі зьявішчамі быту—п'янствам хуліганствам і г. д. | А К, К-А | К-А | | |
| | **19-га мая.** | | | | |
| 1 | Становішча працы клюбаў і чырвоных куткоў і вынікі працы за зімовы пэрыяд. Дырэктывы па працы на летні час. | НКА. АК, К-А | К-А | Клюбы саўгасаў і чырвоныя куткі | Наркамасьветы Загадчыяі 3-х клюбаў |
| 2 | Аб арганізацыі экскурсій у буйныя саўгасы і калгасы і прадпрыемствы цяжкай прамысловасьці з ліку рабочых-ударнікаў. | АКА, К-А, НКА | К-А | | Наркамасьветы |
| 3 | Вынікі работы Дому Спэцыялістых, уплыў на палітычны ўзровень сяброў Дому і на забесьпячэньне клясавай лініі ў працы спэцыялістых. | ЦБ сэкцый, К-А | ЦБ сэкцый | | |

| №№ п. ч. | Калі і якія пытаньні разглядаюцца на Прэзыдыуме БелРэсКа саюзу | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто цакладчык | Аб'екты абсьледваньняў | Хто выклікаецца |
|---|---|---|---|---|---|
| 4 | Аб замежных камандыроўках спэцыялістых. | ЦБ сэкцый К-А | ЦБ сэкцый К-А | | |
| 5 | Арганізацыя культмасавай работы, прыстасаванай да работы ў летні пэрыяд. | А К А, Н К А | | | |
| 6 | Аб выданьні лемантара на 1930-31 г. для лікпунктаў. | Наркамасьветы К-А | К-А | | БДВ |
| 7 | Вынікі работы па ліквідацыі няпісьменнасьці за зімовы перыяд. | АКА, НКА, К-А | НКА | | Наркамасьветы, ЦК ЛКСМ, ЦВК, саюз Працасьветы |
| | **19 га чэрвеня.** | | | | |
| 1 | Аб клюбным будаўніцтве на 1930-31 г. (праэкты пляны). | АКА, НКА, К-А | К-А | | |
| 2 | Аб арганізацыі работы па лікбезу на зімовы пэрыяд. | НКА, К-А | К-А | | |
| 3 | Аб ходзе работы груп „рабфак на даму" і с.-г. курсы „Гатоўся ў прафшколы і на рабфак". | АКА, К-А | К-А | | |
| 4 | Аб ходзе індывідуальнай і групавой падрыхтоўкі сельгаслесрабочых і батрацтва ў навучальныя ўстановы настаўніцтвам. | Саюз Працасветы АКА, К-А | К-А | | Саюз Працасьветы |
| 5 | Аб дапамозе ў культрабоце саюзу СГЛР з боку іншых саюзаў. | Адпаведныя саюзу К-А А К А | К-А | | Прадстаўнікі саюзаў |
| 6 | Аб укамплектаваньні навучальных устаноў у 1930 31 навучальным годзе і аб удзеле ў гэтай справе саюзу. | Наркамасветы, К-А,АКК | К-А | | |
| 7 | Вынікі вучобы батрацтва школьнага ўзросту ў дзённых школах сацвыху. | Н К А, К-А | К-А | | Наркамасьветы |
| | **19-га ліпеня.** | | | | |
| 1 | Аб ходзе культмасавай работы сярод сэзоньнікаў, батрацтва і сплаўшчыкаў. | Н К А, К-А | К-А | | Наркамасьветы |
| 2 | Аб ходзе работы па кінофікацыі саўгасаў. | Белкаапсаюз, Бел дзяржкіно, К-А АКА саюзу | К-А | | Белдзяржкіно, Белкаапсаюз, Белкалгасаюз |
| 3 | Аб ходзе суцэльнай-радыёфікацыі саўгасаў і л-ваў. | К-А, АКА саюзу | К-А | | |
| 4 | Арганізацыя сувязі радыё-газэты „Бел. Батрак" з радые-слухачамі. | Радыё-Центр, К-А | К-А | | |
| 5 | Вынікі работы калектыву „Сіняй Блюзы ТРАКТАР" і дырэктывы аб далейшай рабоце. | Калектыў, К-А | К-А | | Галоўмастацтва |
| | **19-га жніўня.** | | | | |
| 1 | Вынікі летней работы і дырэктывы на наступны час. | А К А, К А | К-А | | |
| 2 | Аб правядзеньні Ўсебеларускай і акруговых культнарад. | А К А, К-А | К-А | | |
| 3 | Аб аслабаненьні батрацтва-падлёткаў да паступленьня ў школы. | Н К А, К-А | Наркамасветы | | Наркамасьветы |
| 4 | Аб становішчы працы па фізкультуре сярод батрацтва і сельгаслесрабочых. | ВСФК, К-А | К-А | Гурткі фізкультуры | ВСФК, інструктар ЦСПСБ |

| № п. ч. | Калі і якія пытаньні разглядаюцца на Прэзыдыуме БелРэсКа саюзу | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто дакладчык | Аб'екты абсьледваньняў | Хто выклікаецца |
|---|---|---|---|---|---|
| 5 | Аб арганізацыі чырвоных куткоў батрака пры школах. | Н К А, К-А | К-А | | НКА |
| 6 | Вынікі і становішча работы камісій садзейнічаньня ліквідацыі няпісьменнасьці сярод батрацтва пры с.-с. | АК, К-А | К-А | | ЦВК, ЛКСМ, саюз Працасьветы |
| | **19-га верасьня.** | | | | |
| 1 | Аб арганізацыі другой групы калектыву „Сіней Блюзы". | АКА, К-А | К-А | | Галоўмастацтва |
| 2 | Аб працы сярод спэцыялістых на зімовы пэрыяд. | ЦБсэкцый, К-А | ЦБ сэкцый | | |
| 3 | Вынікі і практыка культурна-масавай работы студэнцтва за час летніх вакацый. | АКА, прафкомы К-А, ЦБ Пралетстуд | К-А | Усе с.-г. на вуч. установы Саўгасы | Прафком с.-г. Акадэміі ЦБ Пралетст. Калгассаюз |
| 4 | Праверка практычнай работы саюзных арганізацый у дапамозе культурнай рабоце ў калгасах. | Калгассаюз, К-А | К-А | | |
| 5 | Аб арганізацыі працы сярод падлеткаў-батракоў. | АКА саюзу, Ц К Л К С М | К- А | | |
| 6 | Праверка дырэктыў дадзеных у рабоце прафкому с.-г. Акадэміі. | Прафком, Аршанскае АКА К-А | Прафком | Бюро прафсэкцый і бюро с.-г. Акад. | Прафком с.-г. Акадэміі ЦБ Пралетстуду, НКА |
| | **19-га кастрычніка.** | | | | |
| 1 | Аб становішчы работы па інтэрнацыянальным выхаваньні і барацьбе з антысэмітызмам. | АКА. К-А | К-А | | |
| 2 | Аб радыёфікацыі і кінофікацыі лесанарыхтоўчых пунктаў. | Лесбел, К-А, АКА Саюз., Белдзяжкін. | Белдзяржкіно К-А | Лесанарыхтоўкі | Лесбел, Белдзяржкіно Радыё-Цэнтр. |
| 3 | Аб формах і мэтадах культработы ў інтэрнатах лесарубчаскіх арцеляў. | АКА, Лесбел і К-А | К-А | | |
| 4 | Становішча работы па шэфству прафарганізацый саюзу над чырвонай арміяй. | К-А, АКА | К-А | Падшэфныя часткі | Падшэфныя часткі |
| 5 | Аб формах і мэтадах працы сярод батрачак і жонак рабочых. | Жанаддзел, К-А | К-А | | |
| 6 | Праверка дырэктыў дадзеных па лініі работы прафкомаў Полацкага Ляснога, Каніцкага і Магілёўскага Землаўпарадкаваўчага Тэхнікумаў. | Прафкомы, АКА, К-А, ЦБ Пралетстўда | Прафком | Прафкомы | Прафкомы, ЦБ Пралетстуду |
| | **19-га лістапада** | | | | |
| 1 | Вынікі прыёму ў навучальныя ўстановы на 1930-31 навучальны год. | Прафкомы с-г навуч. установаў ЦБ Пралет. АК, К-А | К-А | С.-г. навуч. установы | Прафкомы, ЦБ Пралетстуду, НКА |
| 2 | Абслугоўваньне культурна-масавых запатрабаваньняў батрацтва хатамі-чытальнямі і нарадамі. | НКА, К-А, АКА | Нар камасветы | Нардамы і 10 хатчытален | Наркамасьвета |
| 3 | Вынікі дапамогі ў культпрацы саюзу СГЛР з боку іншых саюзаў. | ЦП адпаведных саюзу АКА, К-А | К-А | | Адпаведныя ЦП саюзаў |

| №№ п. ч. | Калі і якія пытаньні разглядаюцца на Прыэзыдуме БелРэсКа саюза | Хто падрыхтоўвае пытаньне | Хто дакладчык | Аб'екты абследваньняў | Хто віклікаецца |
|---|---|---|---|---|---|
| 4 | Аб арганізацыі фізкультурнай работы на зімовы пэрыяд. | АКА, К-А | К-А | | ВСФК. інструктар ФА ЦСПСБ |
| 5 | Аб рабоце вайсковых і санітарных гурткоў. | ЦС Авіоахім, К-А | К-А | | |
| 6 | Вынікі работы с.-г. гурткоў у саўгасах, іх уплыў на падняцьце вытворчасьці, павышэньне агранамічных ведаў, рацыяналізацыя вытворчасьці, культурныя адносіны да сродкаў вытворчасьці і жывёлы і задачы курсаў на зімовы пэрыяд. | А К А, К-А ЦБ Сэкцый | К-А | Курсы саўгасаў | ВСТ, ЦБ сэкцый |
| | **19-га сьнежня.** | | | | |
| 1 | Вынікі працы па радыёфікацыі саўгасаў. | НКА, К-А | К-А | | |
| 2 | Аб ходзе працы па ліквідацыі няпісменнасьці і малапісьменнасьці. | НКА, АК, КА | К-А | | НКА |
| 3 | Аб скарыстаньні студэнства ў час вакацый на культмасавай працы сярод батрацтва і сельгаслесрабочых. | ЦБ Пралетстуду АК К-А | К-А | С.-г. навуч. установы | НКА, ЦБ Пралетстуду |
| 4 | Аб правядзеньні завочнага стралковага спаборніцтва. | АК, К-А | К-А | Гурткі | |
| 5 | Вынікі і практыка летняй культмасавай работы сярод спэцыялістых. | АКА, ЦБ сэкцый К-А | ЦБ сэкцый | | |
| 6 | Праверка дырэктыў у працы прафсаюзаў Менскага Палітэхнікуму, М. Горскага і Барысаўскага с.-г. Тэхнікуму. | Прафкомы, АКА, К-А | Прафком | Прафкомы, тэхнікумаў | Прафкомы, ЦБ Пралетстуду, НКА |

Плян складзен у снежані м-цы 1929 г. да рэарганізацыі апарату саюза.

# ПЛЯН СТАТРАБОТ НА 1930 ГОД.

У мэтах вывучэньня галін прафсаюзнай работы, як та: па ахопу саюзным членствам груп сельгаслесрабочых, па ахопу працоўнымі дагаворамі батрацтва і іх зарплаце, па вытворча-эканамічнай рабоце, масава-культрабоце, удзелу членаў саюзу ў грамадзка-палітычным жыцьці і г. д.—уводзіцца ва ўсіх саюзных органах статыстычны вучот канкрэтных вынікаў праробленай работы.

Статыстычны вучот праводзіцца па асобных формэх (вучотных картках) якія саюзныя органы запаўняюць адпаведнымі зьвесткамі і прадстаўляюць у вышэйшыя праворганы ў тэрміны, вызначаныя ў зьмяшчаемым ніжэй гэтага пляну статыстычных работ.

| №№ па парад. | Пералік статыстычных матар'ялаў | Кім і ў якія тэрм. прысылаецца | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Рабачкомамі ў Акркамітэты | Акркамітэтамі ў Бел. Рэс. К-т. | БелРэсКа ў ЦСПСБ і ЦК саюзу |
| 1 | Зьвесткі аб колькасьці членаў саюзу: два разы ў год . . . . . . . . . . . . . . (Рабачкомы запаўняюць і прысылаюць картку хуткага вучоту, а АК сводкі № 1 і № 1-а) | 5/1 і 5/8 | 12/1 і 12/8 | 20/1— 20/8 |
| 2 | Карткі прафскладу безпрацоўных . . . . . | „ | „ | „ |
| 3 | Сетка прафсаюзных органаў адзін раз у год | „ | „ | „ |
| 4 | Сьпіс кандыдатаў да вылучэньня і вылучэнцаў адзін раз у год . . . . . . . . . . | 5/1 | 12/1 | 20/1 |
| 5 | Картка па вучоту колькасьці і складу ўдзельнічаючых у сацспаборніцтве . . . . (Запаўняюць рабачкомы саўгасэў і лясьніцтв, налічваючыя звыш 50 чалавек рабочых). | 1/2 | 12/2 | 20/2 |
| 6 | Сводка аб ударных брыгадах і ўдарніках. . | 15/1 | 20/1 | 1/2 |
| 7 | Вучот работы вытворчых нарад і камісіі (Прадстаўляюцца выпісы з кнігі вытворчых нарад рабачкомамі прадпрыемств, налічваючых звыш 50-ці чалавек рабочых | Праз кожныя тры месяцы | | |
| 8 | Аб ахопу працуючых калдагаворамі адзін раз у год . . . . . . . . . . . . . . . | 5/3 | 12/3 | 20/3 |
| 9 | Інфармацыйнае паведамленьне аб удзелу саюзу ў грамадзка-палітычным жыцьці, праходзімых розных кампаніях і г. д. (колькасьць членаў у с/с, каапэрацыі, удзел у хлебанарыхтоўках— калект., выкананьне дагавору з касай ашчаднасьці, збор мэталалому і г. д.). | 5.5 | 2/5 | Для справ. к Усебел. зьезду |
| 10 | Карткі окладу рабачк. і сельрабачкомаў. . | Прысыл. праз 3 дні пасьля перавыб | | |
| 11 | Сводка платнага апарату і адк. прафработнікаў . . . . . . . . . . . . . . . . | — | 1/5 | 5/4 |
| 12 | Склад прафсаюзных канфэрэнцый і зьездаў | Праз тры дні пасьля канф. ці зьезду. | | |

| №№ па парад. | Пералік статыстычных матар'ялаў | К м і ў якія тэрміны прысылаюцца | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Рабачкомамі ў Акркамітэты | Акркамітэтамі ў Бел. Рэс. К-т | Бел. РэсКа ў ЦСПСБ і ЦК саюзу |
| 13 | Справаздача аб мас. культраб. два разы ў год. | 5/6 – 5/10 | 12/6 - 12/10 | 1/6—1/11 |
| 14 | Зьвесткі аб колькасьці органаў культустаноў і іх абсталяван. . . . . . . . . . . | „ | „ | „ |
| 15 | Справаздача работы клюбаў . . . . . . . | „ | „ | „ |
| 16 | „ саюзных бібліотэк налічваючых звыш 500 кніг. . . . . . . . . . . . | „ | „ | „ |
| 17 | Справаздача гурткоў фізкультуры і вайсковых гурткоў . . . . . . . . . . . . . . | „ | „ | „ |
| 18 | Вучот колькасьці няпісьменных, лікпунктаў і скончыўшых лікбез два разы ў год. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | „ | „ | „ |
| 19 | Зьвесткі аб колькасьці ахопленых працдагаворамі батракоў. . . . . . . . . . . . | 5/8 | 12/8 | 20/8 |
| 20 | Вынікі пасылкі на курорты і ў дамы адпачынку. . . . . . . . . . . . . . . . . | 5/10 | 12/10 | 20/10 |
| 21 | Вынікі пасылкі ў навучальныя ўстановы і курсы па падрыхтоўцы кадраў. . . . . | 5/11 | 12/12 | 20/11 |
| 22 | Колькасьць арганізаваных дзіцячых ясьляў і дзіцячых пляцовак. . . . . . . . . . | 5/11 | 12/11 | 20/11 |
| 23 | Колькасьць кас узаемадапамогі. . . . . | 5/12 | 12/12 | 20/12 |
| 24 | Колькасьць сэкцыйных органаў і склад членаў сэкцыі спэцыялістых . . . . . . . . . | „ | „ | „ |

Рабачкомы, сельрабачкомы і Акруговыя Камітэты не чакаючы напамінкаў—сваечасова складаць усе вызначаныя па гэтаму пляну статзьвесткі і адсылаюць іх у БРК саюзу згодна паказаных тэрмінаў.

Райінструктарам саюзу прапануецца пры выездах у рабачкомы правераць выкананьне рабачком. пляну статработ і абавязкова дапамагаць рабачкомам у складаньні статзьвестак.

**Выдавецтва Бел. Рэс. К-ту. Сельгаслесрабочых СССР.**

Адказны рэдактар—**Аскерка.**
Намеснік яго: **Юшкевіч.**

Галоўлітбел № 876. Тыраж 1500 экз. Друкарня Менспраўдому.